„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 9 (53) БЕЛАСТОК, 3 САКАВІКА 1957 г. ГОД II

## ГОД ПРАЦЫ

Год. Многа гэта ці не? І так і гэтак. Мала, калі разглядаем увесь мінулы перыяд, але многа калі разглядаем працу, якую на працягу года зрабіла «Ніва».

Першы год — год пошукаў у працы, год барацьбы са шматлікімі цяжкасцямі, год змаганняў за ідэйнае аблічча газеты, яе афармленне, дый за ўсё, што вяжацца з рэдакцыйнай працай. Гэта вялікая і цяжкая праца. Праца, якую цяжка змерыць, якой-небудзь меркай. Праца, якой вынікі не заўсёды хутка, з дня на дзень даюць рэзультаты.

Але як-жа радасна на сэрцы, адчуваецца тады новы прыплыў энергіі, калі бачым рэзультаты сваёй працы. Так, на працягу года, мы — працаўнікі рэдакцыі адчувалі гэта амаль штодня. Ніколі не забудзем той перыяд, калі «Ніва» арганізавалася. Колькі-ж лістаў поўных радасці, захаплення, энтузіязму атрымоўвалі мы па гэтай прычыне.

Пасля ішноў лісты з падзякамі, за тое, што «Ніва» дапамагала вырашыць тую, ці іншую праблему, за тое, што ў газеце друкаваўся артыкул, які кранаў пякучую, часта балючую, справу. Штодзённыя кантакты з чытачамі, штодзённая, так сказаць гутарка з імі — вось, дзе крыніца таго, што «Ніва» з кожным днём ставалася ім бліжэйшай. Але ці няма недахопаў? Напэўна ёсць.

Верым адпака-ж, што далейшыя цесныя сувязі з чытачамі дапамогуць іх — гэтых цяжкасцей пазбыцца.

Асобны падзел нашай працы — гэта супрацоўніцтва з нашымі наймалодшымі чытачамі. Кожны ліст пісаны дзіцячым почыркам прыносіў нам многа радасці. А было іх на працягу года шмат. Гэта нас найбольш цешыць. Мы цешыліся, што маладое пакаленне беларусаў чытае «Ніву», што «Ніва» з'яўляецца іх блізкім і неадлучным сябрам.

Несумненна дасягненнем нашым з'яўляецца факт, што вакол «Нівы» згуртавалася найболып здаровая, найбольш прагрэсіўная частка беларускага насельніцтва ў Польшчы. Згуртаваліся людзі, якія вырашылі даць адпор усім рэакцыйным сілам, якія тармазяць наш марш да сацыялізма. Такіх людзей з кожным днём ўсё больш і таму ёсць прычыны падкрэсліць гэты факт. З рэдакцыяй часта супрацоўнічаюць журналісты польскіх газет. У «Ніве» друкаваліся таксама артыкулы польскіх літаратараў і вучоных. Гэта вялікі крок у галіне ўмацавання дружбы паміж палякамі і беларусамі. Атрымоўвалі і атрымоўваем мы шмат лістаў ад палякаў, якія ў цёплых словах жадалі і жадаюць поспехаў у нашай дзейнасці.

«Ніва» ўжо выйшла і за межы Польшчы. Яе чытаюць у краінах народнай дэмакратыі і капіталістычных краінах. Гэтым мы ганарымся. Гэта наш поспех. Не мелі мы ахвоты, ані патрэбы рабіць ацэнкі нашага часопіса. Найлепш яе рабілі і будуць у далейшым рабіць нашы чытачы. Вось так у сувязі з гадавінай узнікла некалькі думак і фактаў, якімі хочам падзяліцца з чытачамі.

Уступаем у новы год працы. Думаем, што разам з Вамі — дарагія Чытачы — даб'емся яшчэ лепшых поспехаў.

Нашым шчырым жаданнем у далейшым — з'яўляецца адлюстраванне думак і праблем, якія хвалююць нашых чытачоў, дапамагчы ім вырашыць іх.

Гэта аснова нашых далейшых поспехаў.



*Фрагмент гор. Беластока.* *Фото — А. Омільяновіч*

## ПАЗНАЙ СВАЮ СПАДЧЫНУ

Янка Купала

### Тутэйшы

На чужы розум я не ўмею браць,
Па-свойму я мяркую аб усім;
Трапляю дровы сеч, касіць, араць
І сеяць — штось сабе, а штось другім.

Я не чыноўнік і не граф, не князь,
Таксама — я не турак і не грэк,
І нават не паляк і не маскаль,
А проста, я тутэйшы чалавек!

*

У святую веру мой, здароў, ці квол,
Набожна ў царкву і ў касцёл хаджу,
Хаця ў царкве крычаць: не йдзі ў касцёл,
А у касцеле — не хадзі ў царкву.

Калі ж каго-бы стрэліла спытаць:
Якой ты веры? Ужо-ж-бы так адсек:
Тутэйшай веры я, каб не салгаць,
Бо я і сам тутэйшы чалавек!

*

Мяне Бог не пакрыўдзіў языком
(У жонкі ж меле ён, як калаўрот),
Мне з прадзедаў застаўся ён з жыццём,
З ім ведае мяне чужы народ.

А вось, якой я мовай гавару,
Хоць пры, каб сцяміць, к знахару па лек...
Ну што? Скажу: тутэйшая яна,
Як я і сам тутэйшы чалавек!

*

Ад прадзедаў і бацькаўшчыны ўзяў —
Вялікая, багатая яна! —
Граніц ніхто йшчэ вокам не абняў,
Як Бог адзін — яна ў мяне адна.

А як завуць край гэты родны мой —
Забыўся ўжо праз свой прыгон і здзек:
Мабыць, забраны ці тутэйшы ён,
Я-ж сын яго — тутэйшы чалавек!

*

Вось так ні то жыву і не жыву,
Сваім, што бачу, не веру вачам,
Што чую — не бяру у галаву,
І што я знаю — ўжо не знаю сам.

Спаўняючы, што трэба, а што не,
Сяк-так мой цягнецца на свеце век,
І як памру, то буду спаць, як пан,
І сніць, што я тутэйшы чалавек!
6.7.1913



ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

# РЭДКАЯ КАЛЕКЦЫЯ

У адной з кватэр велізарнага жылога дома, які знаходзіцца ля Цэнтральнай плошчы Мінска, часам па начах доўга не тухне святло.

— У Міхаіла Фёдаравіча Габышава новая знаходка, — здагадваюцца суседзі, якія позна вяртаюцца з тэатраў і кіно. — Трэба зайсці паглядзець.

Заўсёды рад наведвальнікам, гасцінны, паюнацку рухавы, гаспадар. Сын селяніна — якута Міхаіл Фёдаравіч удзельнічаў у аднаўленні Савецкай улады ў роднай Якуціі і ў сакавіку 1920 года ўступіў у рады Камуністычнай партыі. Затым ён атрымаў вышэйшую адукацыю і 20 год таму назад стаў вучоным. Вялікай вядомасцю карыстаюцца яго працы аб жывёлагадоўлі і кармавой базе, па эканоміцы свінагадоўлі, аб каракулеводстве і іншыя. Два гады вучоны працуе дырэктарам Беларускага інстытута жывёлагадоўлі. Многа год увесь вольны час і большую частку сваіх зберажэнняў аддае ён збіранню і рэстаўрацыі старадаўніх карцін, гравюр і скульптур.

Мы папрасілі вучонага паказаць нам сабраную ім калекцыю.

— У якутаў здаўна існуе звычай не адмаўляць у просьбе жадаючых наведаць іх жыллё, — адказаў Міхаіл Фёдаравіч, — калі ласка, прыязджайце праз поўгадзіны.

Дзверы нам адчыніла жонка вучонага Ксенія Нікалаеўна. Насустрач з ветлівай усмешкай на твары, выйшаў гаспадар кватэры, якая нагадвае невялікі мастацкі музей.

Любоў да твораў жывапісу, — расказвае Міхаіл Фёдаравіч, — прыносіць так многа радасці, падрыхтоўвае ў мінуты адпачынку да плённай працы ў гадзіны заняткаў. Гэта, як работа ў садзе, цікавае падарожжа, захапляючая кніга, любімы спорт, або цудоўная музыка... Ці мала ў чалавека магчымасцей для напоўненага, творчага адпачынку!

Пасля такога ўступлення Міхаіл Фёдаравіч, які выдатна вывучыў гісторыю жывапісу, нібы ўводзіць гасцей у свет мастацтва. Ён паказвае апошні свой набытак — часта пачарнеўшае ад часу палатно, на якім час і ўмовы наклалі свой разбураны адбітак, аб значнасці якога можна меркаваць часам, толькі па асобных бліках. Дзе толькі ні захоўваліся старадаўнія карціны. Іх некалі развешвалі ў будынках, пазбаўленых нармальнага святла, замуроўвалі ў сховішчах, закопвалі ў зямлю, хавалі ў сундуках, сырых каморах, а то і закідвалі часам, вышпурвалі на паддашак. Многа падарожнічаюць такія карціны па антыкварных крамах і прыватных руках аматараў жывапісу розных краін. І вось карціна трапляе ў рукі аматара - знатака. Праходзяць тыдні, месяцы, а часам і гады лячэння старасці твору жывапісу. Многаслойныя старадаўнія фарбы і лакі паступова нібы ажываюць, і скінуўшы груз год, старадаўняя карціна зноў даносіць да гледача ўсё тое, што было ўвасоблена калісьці мастаком...

Міхаіл Фёдаравіч збірае і аднаўляе карціны ўжо 15 год. Над многімі яго знаходкамі нямала папрацавалі і вопытныя рэстаўратары Савецкага Саюза. Мастацтва Нідэрландаў, Фландрыі і Галандыі XVI—XVII стагоддзяў у яго зборы прадстаўлена зараз палотнамі, звязанымі з імёнамі дзесяткаў вядомых майстроў жывапісу таго часу. Сярод старадаўніх карцін, магчыма з іх нейкая частка — гэта паўторы, варыянты і фрагменты, напісаныя вучнямі або пераймальнікамі, сустракаюцца здзіўляючыя па майстэрству работы. Рукой буйных майстроў выкананы, несумненна, палотны з умоўнымі назвамі: «На рынку», «Мянялы», «Спячая Венера», «Фаўн», «На кухні», «Урок музыкі», «Сусанна са старцамі», «У гатычным храме», «Дачка фараона», «Ля каміна», «Гулякі», «Каючаяся Магдаліна», эцюд карціны «Вакханалія» і іншыя. З імем школы буйнага майстра сялянскага бытавога жанра Адрыяна ван Остадэ звязаны цёпла, задушэўна напісаныя карціны «Снеданне», «Ля таверны», «Шавец», «Папрадуха», «Селянін». Школа П. Артсена, а магчыма і пэндзаль яго самога відаць у карціне «Пакланенне пастухоў». Некалькі карцін уваскрашаюць у памяці тварэнні Рубенса, Ван Дэйка.



*Міхаіл Фёдаравіч Габышаў у вольны час разглядае адну з нядаўна рэстаўрыраваных карцін.*

У некаторых пейзажах часам праступае майстэрства К. Берхема, І. Потэра, К. Пуленбурга, Я. Венікса, якія бліскуча паказвалі прыроду. А вось пейзажы з нераскрытай яшчэ тайнай аўтарства, але па почырку вельмі нагадваючыя работы выдатнага мастака XVI стагоддзя П. Брэйгеля Старэйшага. Адзін з гэтых пейзажаў напісан на каванай меднай дошцы.

Прыцягваюць увагу партрэты воіна, дамы з дзяўчынкай, старога, вучонага, старой з чырвоным бантам, мораплаўцы і іншыя. Выдатны, напрыклад, партрэт служанкі, выпісаны настолькі натуральна і дынамічна, што здаецца яна вядзе гутарку аб сваіх пакупках з кімсьці, хто стаіць за межамі рамы.

Італьянскі і іспанскі жывапіс прадстаўлены карцінамі пад умоўнымі назвамі: «Марыя Магдаліна», «Святая сям'я», «Міраносіца», «Святая Цыцылія», «Хрыстос у кніжнікаў», «Перад навальніцай», «У таверне», «Баталія», «Уцёкі ў Егіпет», «Выхаванне Марыі», «Пасля зняцця з крыжа», «Мадонна з дзіцём» і іншымі, а таксама радам партрэтаў. Асобны пакой адведзен творам, звязаным з імёнамі французскіх жывапісцаў.



*Так выглядае кватэра калекцыянера старадаўніх твораў мастацтва М. Ф. Габышава.*

— Разгадаць аўтара мастацкага твору часта не лягчэй, чым выявіць карціну, — гаворыць Міхаіл Фёдаравіч. — І тут пачынаецца ўжо галіна кваліфікаванага даследчыка, які можа супастаўляць іх сюжэты з вядомымі па каталогах творамі жывапісу розных збораў, класіфікаваць іх па манеры пісьма, па накрэсленых ініцыялах і подпісах мастакоў, па саставу фарбаў і матэрыялаў, якія прымяняліся мастаком і г. д.

У зборы калекцыянера М. Ф. Габышава ўжо налічваецца каля 300 карцін, партрэтаў, гравюр і скульптур. Але ён цікавіцца не толькі творамі жывапісу, у яго кватэры можна бачыць старадаўнюю рэзную і інкруставаную мэблю, у шафах захоўваецца рэдкая калекцыя пласцінак, напетых Шаляпіным, Сабінавым, Нежданавай, пласцінкі з прамовамі В. І. Леніна, Л. Н. Талстога, творамі вялікіх кампазітараў.

У бібліятэцы вучонага, акрамя эканамічнай літаратуры, ёсць рэдкія творы з іншых галін літаратуры. На радзе кніг — даравальныя надпісы аўтараў.

Развітваючыся з нястомным вучоным, мы сардэчна жадаем яму поспехаў у рабоце і новых знаходак у бягучым годзе.

М. МАРОЗАЎ.

Увекавечанне памяці

### Карскага і Цёткі

Нядаўна Гродзенскі аблвыканком і бюро абкома КПБ разглядзелі пытанне аб увекавечанні памяці выдатных дзеячоў беларускай культуры мовазнаўцы і філолага акадэміка Еўфімія Фёдаравіча Карскага і паэтэсы Цёткі (Алаізы Сцяпанаўны Пашкевіч), якія доўгі час пражывалі на Гродзеншчыне.

Вырашана прысвоіць Гродзенскай абласной бібліятэцы і Лашскай сямігадовай школе, дзе навучаўся будучы мовазнаўца імя Е. Ф. Карскага. На будынку будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Гродзенскаму культасветвучылішчу і Вострынскай сярэдняй школе прысвоена імя Цёткі.

У пасёлку Вострына будзе ўстаноўлены бюст паэтэсы.

А. КАРПІОК.

# АГЛЯД КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ Ў БССР

Выйшаў у свет зборнік твораў новай беларускай літаратуры пад назвай «Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.».

Гэтая кніга — працяг і развіццё пачынанняў вядомага зборніка «Беларуская літаратура XIX ст.», які выйшаў у двух выданнях у 1940 і 1950 гг. (Першае выданне выйшла пад рэдакцыяй Янкі Купалы).

У зборнік «Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.» увайшлі творы Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, Ф. Тапчэўскага, А. Гурыновіча, А. Абуховіча, М. Косіч і некаторыя ўзоры беларускай ананімнай літаратуры другой палавіны XIX ст.

*

У Гродзенскім педагагічным інстытуце адбыўся вечар, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння беларускага пісьменніка Дуніна-Марцінкевіча. З дакладам аб жыццёвым і творчым шляху пісьменніка выступіла студэнтка тав. Нерад. Вечар закончыўся спектаклем па п'есе Дуніна — Марцінкевіча «Пінская шляхта», падрыхтаваным сіламі драматычнага гуртка.

*

Выдавецтва пры Б.Д.У у 1956 г. выдала 27 зборнікаў, манаграфій, брашур па пытаннях філалогіі, прыродазнаўства, фізікі, хіміі, гісторыі.

Цікавы зборнік вучоных запісак філалагічнай серыі. У ім змешчаны м. інш. артыкулы: «Творчасць Янкі Купалы ў славянскай крытыцы» С. Карабана, «Аб некаторых мастацка - стылевых і моўных асаблівасцях палескіх аповесцей Я. Коласа» В. Казловай, «М. Багдановіч і Т. Шаўчэнка» Н. Лапідуса і іншыя.

У гэтым годзе будзе выдадзена звыш 30 зборнікаў і манаграфій. Сярод іх «Беларуская літаратура на шляхах развіцця да рэалізма» — М. Ларчанкі, «Нарысы па гісторыі грамадска - палітычнай і філасофскай думкі Беларусі ў другой палавіне XIX стагоддзя». — І. Лушчыцкага, «Аб гісторыі сацыялогіі, як навукі» — Г. Аляксандрава і іншыя.

У выдавецтве Акадэміі навук БССР выйшла з друку кніга «Рэвалюцыйныя камітэты БССР». Гэта — зборнік архіўных дакументаў і матэрыялаў аб арганізацыі і дзейнасці рэўкомаў па ўмацаванню савецкай улады і арганізацыі сацыялістычнага будаўніцтва на тэрыторыі Беларусі ў другой палавіне 1920 года.

*

1 студзеня 1957 года ў Бабруйску ў памяшканні гарадскога тэатра песняй на словы Янкі Купалы «А хто там ідзе» пачаў свой першы спектакль Бабруйскі перасоўны калгасна - саўгасны тэатр.

Пасля ўступнай песні пачаўся спектакль «Раскіданае гняздо» па п'есе Янкі Купалы. Цішыня ў глядзельнай зале, бурныя апладысменты па заканчэнні актаў—яшчэ раз паказалі, што гэты твор Янкі Купалы бессмяротны. Тэатр будзе даваць 420 спектакляў у год. 420 разоў на працягу аднаго года тэатр будзе выступаць перад гледачамі рэспублікі і, самае галоўнае, перад сельскімі гледачамі. Для іх, уласна, і створаны калектыў.

*

Работнікі беларускага радыё распрацавалі план перадач, прысвечаных 40-годдзю Вялікага Кастрычніка.

Вялікае месца ў плане зоймуць перадачы аб развіцці беларускай літаратуры і мастацтва.

*

У Маладзечна адбылася абласная нарада маладых пісьменнікаў, у якой прынялі ўдзел каля 30 празаікаў, паэтаў і крытыкаў. Даклад аб рабоце літаб'еднання зрабіў Ф. Ізмайлаў. На секцыях абмяркоўваліся творы ўдзельнікаў нарады.

*

Ленінградскае аддзяленне выдавецтва «Савецкі пісатель» выпусціла ў свет зборнік выбраных вершаў і паэм Янкі Купалы.

Кніга выйшла ў малой серыі «Библиотеки поэта» тыражом у 50.000 экземпляраў. Пераклады твораў Янкі Купалы зроблены ленінградскімі і маскоўскімі паэтамі. Уступны артыкул, каментары і заўвагі складзены Р. І. Файнберг.

*

Беларускі кампазітар М. Аладаў закончыў работу над кантатай, якая называецца «Сорак год» і прысвечана 40-годдзю Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

*

У Маскоўскім музычным выдавецтве выдадзены зборнік «Музычная культура БССР» Г. Цітовіча і Б. Смольскага.

*

Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала нядаўна зборнік паэтычных твораў вялікага латышскага паэта Яна Райніса на беларускай мове пад загалоўкам «Выбранае».



© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

## „Ніва" у лічбах

Не будзем гаварыць аб тым, што 53-ці нумар «Нівы» — гэта вялікая падзея, а год — гэта вялікі перыяд часу. Аднак і гэты наш невялікі скромны юбілей хацелі-б мы паказаць нашым Чытачам у лічбах, каб выявіць нашыя дасягненні ў сенсе распаўсюджвання беларускай мовы, культуры, традыцый, фальклору і г. д.

У гэтым часе «Ніва» здабыла сабе месца, не толькі ў Беластоцкім ваяволстве, дзе пражывае найбольш беларусаў, не толькі ў Польшчы, дзе (як аказалася) няма такога ваяводства ў якім не было-б беларусаў.

На «Ніву» падпісваюцца і ў СССР, ЗША, Францыі, Англіі, Бельгіі, Канадзе і іншых краінах.

«Ніву» чытаюць у тых краінах не таму, што гэта такі цікавы часопіс. Не! — Гэта проста дзеля таго, што ў кожнага чалавека ёсць вялікая схільнасць да свайй роднай мовы. І няма нічога дзіўнага ў тым, што многія беларусы, як толькі даведаюцца, што дзесьці ў Беластоку выдаецца часопіс на роднай мове, — хочуць яго мець і прачытаць.

Увесь калектыў нашай рэдакцыі стараецца, каб «Ніва» была цікавым, шматрознастайным па зместу, і прыцягальным часопісам. У рэдагаванні яе памагаюць нам нашы чытачы. Таму вельмі сардэчную сувязь навязалі мы з нашымі чытачамі і карэспандэнтамі. Ад іх на працягу года атрымалі мы 3.184 лістаў у тым ліку 1.434 ад карэспандэнтаў, 1.750 ад чытачоў і 30 ад замежных чытачоў.

Аб «Ніве» піша і польскі друк. Часам пісалі аб нас «Газета Беластоцкая», «Жыце Беластоцке», «Трыбуна Люду», «Дзеннік Балтыцкі», «Трыбуна Роботніча», «Штандар Млодых», «Глос Кошаліньскі», «Земя і Можэ», «Кроніка», «Глос Роботнічы», і «Жыце Літэрацке». У БССР пісала пра нас «Звязда», «Літаратура і мастацтва» і «Совецкая Беларусь».

Для нашых чытачоў сарганізавалі мы 20 конкурсаў, на якія прызначалі шмат цэнных узнагарод, між іншым такія як: матацыкл, веласіпед, два радыёпрыёмнікі і 482 кніжак.

На старонках «Нівы» было змешчана каля 340 гумараў. Ведаем, што не з кожнага з іх можна было вельмі-ж ужо так і смяяцца. Аднак трэба сказаць, што нямала было трапнага і характэрнага беларускага гумару — асабліва ў Дзядзькі Ляваня.

На працягу года на «Ніву» пайшло 8.750 кілаграмаў паперы (адзін вагон).

Думаем, што нашы чытачы дапамогуць нам у тым, каб на будучыню «Ніва» была яшчэ больш цікавай і знайшлася ў хаце кожнага беларуса.

Р.

## Як робіцца

Набліжаецца восьмая гадзіна раніцы. Зыходзяцца працаўнікі. Праўда, не ўсе рэдактары прыйшлі. Некаторыя з іх знаходзяцца ў камандзіроўцы. У раннія прывітальныя размовы ўрываецца званок тэлефона.

Але вось у дзвярах пачуўся ўсім добра знаёмы голас. Гэта прыйшоў з пошты з пачкай лістаў рэдакцыйны пасыльны — Ёзік Шарэйка. Перш передае іх сакратарцы, якая кожны ліст упісвае ў карэспандэнцыйную кнігу.



*...гэта прыйшоў з пошты Ёзік Шарэйка...*

Нарэшце... можна падыйсці да стала паважанай сакратаркі, пабачыць ці няма часам «афіцыйнага» адказу на свой артыкул змешчаны ў «Ніве», выбраць адпаведныя тэматыкай лісты, пачытаць, як кажуць, «жывое слова». Кожны ліст узяты журналістам «на ўладжанне» замацоўваецца за ім яго ўласнаручным подпісам у карэспандэнцыйнай «біблії».

Вось рэдактар М. энергічна ўстаў з-за стала. У руцэ трымае жмут картак «чарнавіка». Ёсць задаволены — учора ў хаце закончыў свой новы артыкул. (Ну што-ж, натхненне не заўсёды змяшчаецца ў 8-мі гадзінах працы). Цяпер хутка падыходзіць да траскаючых на «Уран'ях» машыністак, каб заняць сваю чаргу. Бо трэба сказаць, што машыністкі, «завалены» работай. Услед за ім рэдактар Х. зноў прыносіць новы жмут «чарнавікоў». — Гэта толькі інфармацыі і невялічкія артыкулікі (апрацаваныя на падставе лістаў) — пацяшае.

— Ужо ваша гатовае — паведамляе машыністка Люба.

Журналіст Б. усхапіўся з крэсла, бярэ машынапіс, сядае і яшчэ раз прачытвае свой артыкул і апрацаваныя ім лісты — ці няма часам якіх арфаграфічных памылак ці пропускаў.

Пасля памалу накіроўваецца ў процілеглыя дзверы, за якімі пануе незвычайная цішыня. Гэта сакратарыят рэдакцыі, — дзе вырашаецца аб «жыцці ці смерці» назат кожнай найменшай інфармацыі.

Прачытаўшы прынесены матэрыял, сакратар рэдакцыі, хвіліну думае.

— Добра — кажа — пабачым — і аддае твор журналіста для мовазнаўцы (Трэба-ж яшчэ раз прачытаць — ці не закраўся там часамі які-небудзь русізм або паланізм).

Слова «пабачым» зусім не абазначае, што даны артыкул ці інфармацыя ўжо напэўна пойдзе ў друк. Апошняе слова яшчэ за рэдакцыйнай калегіяй.

Ну, але калі ўжо рэдкалегія канчаткова пераканана аргументацыяй рэдактара Б. наконт таго ці іншага яго артыкула, аўтарытэтна заяўляе. — Добра. Толькі яшчэ вось тут і тут трэба дапрацаваць. Але так... добра...



*Машыністкі Ніна Бручко і Люба Сліжэўская падчас працы.*

Івось такі ўсебакова дапрацаваны артыкул у партфелі рэдакцыйнага пасыльнога Ёзіка Шарэйкі вандруе ў друкарню. Там непасрэдна дастаецца ў рукі лінатыпісткі, якая, так сказаць, адлівае гэты артыкул ў волаве. Пасля такі валавяны артыкул апыняецца на стале наборшчыка, які згодна з прысланай сакратарыятам макетай старонкі, размяшчае яго, як можна назваць, у «сталёвай старонцы». Калі такая «сталёвая старонка» ужо гатовая, наборшчык мажа яе друкарскай фарбай робіць адбітку і передае гэту адбітку карэктарам — спецыялісткам ад вышукоўвання (ізноў!) памылак, якія магла зрабіць лінатыпістка. Адбіткі з нанесенымі на іх памылкамі вяртаюцца да лінатыпісткі. — Трэба паправіць.



*Рэдактар стыліст Зося Буслові́ч...*

Гатовыя і папраўленыя «сталёвыя старонкі» вандруюць у, так званы, «каляндэр». Пасля з адпаведнай сумесі металаў адліваецца не толькі паасобныя словы, але цэ-

## Пазнаёмімся з „Нівай"

Ну вось мы і на месцы. Прашу, праходзьце ў гэтую браму.

— Зараз, зараз, пачакайце. Куды-ж гэта вы мяне прывялі. Тут-жа ў мінулым годзе нашага Янку за самагонку судзілі. Я добра памятаю. Гэта-ж памяшканне суда. Не, выбачайце, я чалавек чэсны, ніякай віны за сабой не адчуваю, дык чаго-ж я сюды буду заходзіць?

— Не хвалюйцеся паважаны грамадзянін. Па судзе тут і след прастыў, а памяшканне гэтае атрымала Галоўнае Праўленне БГ-КТ, якое, так сказаць, з ласкі прыняло сюды і нашую рэдакцыю. Гэта вядома да часу, пакуль не пабудуюць «Дому Друку», у якім «Дэлегатура РСВ «Праса» абяцае нам, так сказаць, камфортнае памяшканне.

А зараз, пакуль што праходзьце, калі ласка, вось па гэтых цаглінках, толькі асцярожна, бо калі нага пакаўзнецца — дык можна ў халявы балота набраць, а гэта вядома да прыемнасці не належыць. Ну што-ж дагэтуль яшчэ ў Беластоку каналізацыйныя справы не зусім наладжаны.

А цяпер вось па гэтых вузенькіх усходах падымемся на першы паверх. Ну, вось, як бычыце самі, маленькая таблічка на дзвярах сама гаворыць, што тут змяшчаецца «Рэдакцыя».

Ад каго-ж мы пачнем нашае знаёмства?

— Ну, давайце ад журналістаў, у так званы «штаб» рэдакцыі зойдзем потым.

Прашу, калі ласка, праходзьце паважаны грамадзянін.

Не, не, не хвалюйцеся, тут няма ніяхага сходу. Гэта якраз усе журналісты ў камплекце. Яны ўчора вярнуліся з камандзіроўкі і падрыхтоўваюць матэрыялы да наступнага нумара.

— Кажаце, што цесна, што ў такіх умовах нельга працаваць?

— Плюньце на гэта. Ды хто ў нас звяртае ўвагу на ўмовы. Найважнейшае — гэта: сабраць як найбольш цікавых матэрыялаў, а апрацаваць іх можна і ў цягніку, вяртаючыся ў рэдакцыю з камандзіроўкі.

Ну калі ласка, знаёмцеся.

Вось гэты «пажылы» чарнявы чалавек, гэта рэдактар Іосіф Рыбінскі (Верас). Бачыце які ён задуманы, мабыць нешта яго вельмі хвалюе. Нятрэба гэтаму здзіўляцца, зважыўшы важнасць праблемы (справа выхавання нашай моладзі), якую ён намагаецца вырашыць. Не аднаму з нас пры спробе вырашэння яе, кроплісты пот выступіў-бы на зморшчаным чале. Тады не будзем перашкаджаць яму, няхай далей думае. Хто ведае, мо' рэзультатам гэтае думкі будзе добры плён у відзе небывалага, цікавага артыкула.

А вось побач маладзенькая прыстойная жанчына, з чароўнай салодкай усмешкай і нявінным залётным позіркам. Гэта нам наогул усім вядомы рэдактар — Вера Леўчук.

Не, вы памыляецеся, захапленне яе выклікана не нейкім там любоўным лістам, а менавіта цёплым, нявінным лістам маленькіх школьнікаў, якія пастаянна дзеляцца з рэдакцыяй сваім жыццём і радасцю. А нашая Верачка, так сказаць спецыяліст па дзіцячых справах. Як бачыце і зараз яна падрыхтоўвае матэрыял у наступны нумар, да рубрыкі пад загалоўкам «Малым сябрам».

Далей за масіўным сталом, на першы погляд не зусім прыкметная асоба, гэта рэдактар Мікола Матэйчук. Аднак хто з ім бліжэй знаёмы, той не можа надзівавацца адкуль у ім столькі сяброўскага гумару і жыццярадаснасці. Яго пераважнай рэдактарскай тэматыкай—гэта паліт-грамадскія справы.

Побач за дэлікатненькім столікам з чатырмя тоненькімі ножкамі, сядзіць магутны, (у сэнсе фізічным), так сказаць дзяцюк-волат. Гэта самы малады з незвычайнай энергіяй рэдактар — Сакрат Яновіч. Яго спецыяльнасць — сельскагаспадарчыя справы і ў не меншай ступені, зрэшты заўсёды актуальная, любоўная тэматыка. Гэта зусім зразумела, зважыўшы што рэдактар Яновіч яшчэ вельмі малады і да таго не жанаты.

Хто-ж з нас не пераходзіў такога перыяду ў маладосці.

Насупраць яго за другім сталом, прысадзісты, шырокаплечы мужчына — гэта рэдактар Міхась Хмялеўскі. Ён так сказаць з'яўляецца нервам нашай рэдакцыі, загадчык аддзела лістаў і карэспандэнтаў. Праз яго, і яго сакратаршы — усімі намі паважанай Надзежды Пятроўны рукі, штодзённа праходзяць дзесяткі лістаў прысланых у рэдакцыю і высыланых у шырокі свет.

Зрэшты яго праца не толькі лісты. Нашыя чытачы неаднойчы сустракалі яго цікавыя артыкулы на старонках «Нівы».

Далей вось, за гэтым сталом, насупіўшы чорныя бровы, з неадлучнай і неміласернай траскатнёй пішучай машыны, сядзіць рэдактар Алесь Омільяновіч. Ён спец па партызанскіх справах, зрэшты ўсім вядомы аўтар сенсацыйных успамінаў аб партызанскай дзейнасці на Беласточчыне ў цёмныя гады фашысцкай акупацыі.

Рэдактар Омільяновіч мае ў сабе буйную фантазію (зрэшты неадлучную і вельмі патрэбную ў нашай прафесіі). Вось і зараз націскае ён заўзята пальцамі «клавішы» машыны, а думкі яго далёка, недзе ў Белавежскай пушчы, разам з партызанскім атрадам. Уместа «клавішаў» ён уяўляе рукояткі партызанскага «максіма» і граміць праліўным кулямётным дажджом, так сказаць «на ўсю іванаўску», па ненавісных фашыстах.

Побач яго з неменшай заўзятасцю траскочуць на сваіх машынах нашыя неадлучныя ў рэдакцыйнай працы машыністкі: Ніна Бручко, яшчэ

# „Ніва"



*Пасяджэнне рэдкалегіі.*



*Казімір Бірук — наборшчык складае «Ніву».*



*Лінатыпістка Вера Сохор падчас працы на лінатыпе.*

лыя старонкі. Такія «жалезныя» старонкі абсталёўваюцца ў ратацыйнай машыне і... друкуецца «Ніва». Побач, двух работнікаў пакуе яе ў пачкі для перасылкі ў «Рух», для кальпартажу. А як з гэтым кальпартажом — паглядзіце на ніжэй змешчаны рысунак.

С. Я.




З беларускіх абрадаў

# Хрысціны

Дзіцё. Колькі-ж радасці ў бацькоў, колькі задавальнення.

Цешацца бацькі, цешыцца радня. Ды і наогул цешацца ўсе, калі прыходзіць на свет яшчэ адзін грамадзянін. Бо і чаму-ж не цешыцца. Дзіцё, гэта радасць у жыцці бацькоў, гэта яшчэ адзін чалавек у грамадстве.

З нараджэннем дзіцяці вяжацца шмат цікавых традыцый. Зацікавіўся я імі ў аколіцах Гарадка, Беластоцкага павета.

Пасля нараджэння, яшчэ да хрысцін, жанчыны ідуць у «адведкі». Дзеля гэтага пякуць пірагі, бяруць з сабой віно ці водку і ідуць наведаць як адчувае сябе матка і дзіцё. Перад гэтым яшчэ змаўляюцца суседкі паміж сабой, каб пайсці ў адзін дзень. Вядома, чым больш іх там будзе — тым весялей.

Ідуць не зараз-жа пасля радоў, бо матка яшчэ слабая. Зайдзе тады адна, ці другая, але хутка стараецца адыйсці. Пройдзе некалькі дзён, ну, тады ідуць у «адведкі».

Спачатку вядома: — як здароўе маткі і дзіцяці. Бацька, які цяпер і гаспадаром і гаспадыняй частуе «чым хата багата».

Кабеткі п'юць, ядзяць. А калі ўжо зашуміць у галаве дык і запяюць. А спяваць нашы жанчыны ўмеюць. Старэйшыя прыпамінаюць песні, якія спявалі ў мінулым. Маладшыя спяваюць навейшыя і сучасныя. І так часта да поўначы працягваюцца «адведкі».

Бывае, што «адведкі» трэба спраўляць некалькі дзён па чарзе, бо прыходзяць у адведкі тады, калі маюць час. Тут нельга ўстанаўліваць тэрмін. Прыходзяць наогул тады, калі могуць.

Цікавым тут з'яўляецца тое, што мужчыны на «адведкі» не прыходзяць. Гэта закон. Апрача бацькі нікога з мужчын няма на «адведках».

Дрэнна, калі пападзецца на «адведкі» халасцяк. Жанчыны зараз-жа зробяць з ім парадак. А можа дайсці да таго, што і нагавіцы скінуць. Нецікава. Таму і маладыя хлапцы мінаюць здалёк «адведкі».

Самай вядомай песняй на «адведках» — з'яўляецца песня, якая распачынаецца словамі:

*«Ой п'яна, я п'яна,*
*На парозе ўпала».*

Здараецца і гэтак. А пасля ўжо адбываюцца хрысціны. Тады ўжо ідуць мужыкі з жонкамі. Абавязкова мусяць з сабой нясці і закуску і водку. Бацькі падрыхтоўваюцца таксама нядрэнна. З халасцякоў на хрысцінах бываюць кума і кум, а рэдка, вельмі рэдка, хто-небудзь іншы.

У сучасны момант менш звяртаецца на гэта ўвагі. А яшчэ да нядаўна вельмі моцна за гэтым слядзілі.

Калі кум ці кума першы раз у жыцці хрысціць дзіцё, а аб гэтым усе ведаюць, — тады абавязкова яе (ці яго павозяць на баране). Бараніцца няма чаго. Няма на гэта рады. Асабліва настойлівыя тут ізноў жанчыны. А самы цікавы момант у хрысцінах — гэта момант, калі на стол пададуць «кашу». «Кашу» трэба выкупіць. Першы на талерку кідае грошы бацька, а пасля ўсе апошнія. Ну і весела тады. Хто больш дасць грошай, хто апошні кіне грошы на талерку і г. д. Таму, кожны, хто ідзе на хрысціны стараецца падрыхтаваць як найбольш дробных грошай. Часцей за ўсё распачынаецца ад спору: хто купіць кашу, жаночы ці мужчынскі «бок». І тады кідаюць раз жанчына, раз мужчына. Выгрывае той «бок», які кіне апошні. Бывае ўсяляк. Часам знойдзецца двух аматараў, якія «змагаюцца» да канца. Найчасцей жанчына і мужчына. Рэшта сядзяць быццам «балельшчыкі». Зразумела, хто за кім «балее». А калі выйграе адзін з «бакоў» — тады ядзяць кашу. Дзеліць той, хто «выйграе». Хаця крышачку, але абавязкова мусіць з'есці кожны ўдзельнік хрысцін.

Пасля гэтага хрысціны набліжаюцца да канца. Яшчэ некалькі чарак і госці разыходзяцца дамоў.

М. М.

# ВЯСЕЛЛЕ

Што за гоман дзісь шчаслівы
У хаце.

Што за шум тут галаслівы
Чуваці?

Ой, сягоння ў нашай хаце
Вяселле,

Усе за сталы пане сваце
Заселі.

Як зайгралі марш музыкі,
Зайгралі.

Учыніўся гам вялікі,
Усе ўсталі.

Як пачалі граці марша
І спяваці,

Стала маладая наша
Плакаці

Дасвіданя — мама, тата
І ты браце,

Выхадзіце мяне бедну
Папрашчаці.

У. ГАЙДУК

маладзенькая чарнявая, з залётнай грыўкай на чале дзяўчына і Люба Сліжэўская (нажаль ужо замужняя).

— Выбачайце даражэнькія, што не магу Вас пазнаёміць яшчэ з двума нашымі сябрамі. Гэта рэдактар Казімір Балінскі і Уладзімір Шэшко. Нажаль іх трудна сустрэць у рэдакцыі.

— Ну што-ж здаецца ўжо ўсе, якія працуюць у гэтым пакоі. Тады пройдзем у наступны, дзе памясціўся наш «штаб».

— Выбачайце, калі Вам разбалелася галава ад гэтага гулу і траскатні машын, гэта таму, што вы без прывычкі. А ў нас на гэта ніхто не звяртае ніякай увагі. Прывыклі. Часам толькі рэдактар Яновіч, якога яшчэ як самага маладога не зусім загартавалі дрэнныя ўмовы нашай рэдакцыйнай працы — абвяжа мокрым ручніком распаленую галаву. Аднак не адстае ад калектыву, упарта працуе далей. Мейма надзею, што і ён да гэтага хутка прызвычаіцца, зважыўшы факт, што яго нават жыллёвае памяшканне тут-жа знаходзіцца, так сказаць на рэдакцыйных крэслах. Тады калі ласка, прашу, заходзьце ў «штаб», у якім як бачыце не менш цесна, аднак непараўнальна цішэй.

Не, не даражэнькі, Вы памыляецеся, тут не адбываецца курс крою. А гэтыя вялікія ножніцы, мерка і горба парэзанай паперы — гэта не нейкія там кравецкія прылады, а неадлучныя інструменты ў працы нашага паважанага сакратара рэдакцыі — рэдактара Міхася Баравіка.

Вось і зараз бачыце, як ён заўзята рэжа на некалькі частак нечый артыкул, нават рука яму не ўздрыгне. Аднак што-ж зрабіць, няма на гэта рады. Цікава, як вы гэта вырашылі-б, каб прышлося вам на невялікіх 8-мі старонках «Нівы» змясціць так шматлікі рэдакцыйны матэрыял. Яны-ж не гумовыя, не пашырыш іх. Вось таму, так сказаць і «аперацыя неабходная».

Побач яго, за масіўным сталом, аднак ужо без шклянага блату, сядзіць нашая рэдакцыйная прыгажуня — рэдактар стыліст, Зося Бусловіч. Яна так сказаць правая рука сакратара.

— Ці яна Румынка? — Не, нашая праўдзівая беларуская дзяўчына, толькі ўдалася ўжо такая чорная. Прашу не заглядаць у яе глыбокія, чорныя вочы. Гэта вельмі небяспечна! (набоку кажучы яшчэ не замужняя).

Ну, а наканец, калі ласка, прашу знаёмцеся з так сказаць мозгам нашай рэдакцыі, галоўным рэдактарам — Георгіям Валкавыцкім.

Няма чаго хваляваціа даражэнькі. Наш галоўны толькі за рэдактарскім сталом выглядае такі сур'ёзны і непрыступны. А ў рэчаіснасці, можна сказаць, мае нашае, простае і адкрытае беларускае сэрца. Многія яго ведаюць па-за рэдакцыйнай працай, як вясёлага, сяброўскага чалавека, любіцеля меладычных, народных песень. Вядома маладосць (нажаль сэрца занята).

Аднак у працы рэдакцыі сур'ёзны. І чаго сакратар не зможа сваімі ножніцамі, дык галоўны прыкончыць «гуляючы» па артыкуле сваім магутным чырвоным алавіком. Бяда таму артыкулу, у якім галоўны знойдзе нейкія недахопы (а ёсць іх у нас праўду кажучы нямала). З-пад яго рукі (дакладней кажучы — алавіка) такі артыкул выйдзе быццам каляровы малюнак.

Ну вось вы і знаёмы з рэдакцыяй.

А цяпер разам з рэдакцыйным матэрыялам, па які якраз прыйшоў наш пасыльны Ёзік Шарэйка пройдзем у друкарню і пазнаёмімся з нашымі тэхнічнымі кадрамі.

Калі ласка, заходзьце сюды ў так званы пакой лінатыпаў. Бачыце як тут спакойна ў параўнанні з гуллівым рэдактарскім пакоям.

Вось на гэтым першым лінатыпе так сказаць «царыць» нашая адзіная лінатыпістка — Вера Сохор. Бачыце, як спрытна і хуценька бегаюць яе спрактыкаваныя, дэлікатныя пальцы па клавішах лінатыпа? З лінатыпа выходзяць не аддзельныя літары, а цэлыя металовыя вершы. Тут машынапісы, якія выйшлі ад нашых рэдакцыйных машыністак — Вера пераўтварае ў «металовыя артыкулы».

Тады павандруем следам гэтых артыкулаў на першы паверх.

Вось у гэтым цесным і цёмным пакоіку наш, таксама адзіны, наборшчык Казімір Бірук пад спрытнымі рукамі якога з металовых артыкулаў складаюцца цэлыя старонкі «Нівы».

У гэтым-жа пакоі працуюць нашыя маладзенькія карэктаркі (яшчэ не замужнія) Валя Нікіцюк і Ліда Калішэвіч. Вось Ліда прымасцілася каля акна, (як бачыце ў гэтым пакойчыку вельмі цёмна), і пільна ўзіраецца ў старонку «Нівы». Шукае памылак.

А Валя? Што-ж робіць Валя? Ну так, чытае нейкую захапляючую кніжку. Часам ёй гэта здараецца, аднак не падумайце, што часта. Ну бачыце, Валя адлажыла кніжку і пільна ўзялася шукаць памылак.

— Кажаце, што ў «Ніве» можна вельмі часта сустрэць карэктарскія памылкі?

Вінаваты тут даражэнькі дрэнныя ўмовы працы — толькі ўмовы.

У гэтым цёмным, маленькім і галаслівым пакойчыку вельмі-ж ужо трудна адшукаць гэтыя памылкі.

Ну вось і канец нашага «пазнаёмімся». Да пабачэння. Наведвайце нас часцей.

Знаёміў ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ

## Рэвалюцыянер — народаволец

1 сакавіка 1881 года ў рускага цара Аляксандра II, які праязджаў па Пецярбургу каля Екацерынінскага канала, народавольцам Рысаковым была кінута бомба. Бомба разарвалася, але не трапіла ў цэль. Напалоханы выбухам, імператар на хвіліну выглянуў з карэты, каб паглядзець, што здарылася; тады да яго ўшчыльную наблізіўся другі з удзельнікаў баявой групы і кінуў бомбу проста пад ногі «яго вялікасці». Цар быў забіты. Смяртэльна параненага І. Грынявіцкага даставілі ў бліжэйшы прыдворны шпіталь, дзе ён у тойжа вечар памёр.

Імя народавольца-рэвалюцыянера І. Я. Грынявіцкага, які, паводле ўспамінаў сучасніка, не праявіў ні ценю страху або хвалявання і ішоў на забойства цара з зусім спакойнай душой, стала вядома царскаму ўраду пасля заканчэння працэсу над удзельнікамі падзей 1 сакавіка.

Нарадзіўся Ігнат Яўхімавіч Грынявіцкі ў 1856 годзе ў маёнтку Басін, Бабруйскага павета, Мінскай губерні ў сям'і аканома. Бацька яго, беззямельны шляхціц, паходзіў з сядзібы Вялікай Грынавічы Бельскага павета.

У 1875 годзе пасля сканчэння рэальнага вучылішча ў г. Беластоку І. Я. Грынявіцкі паступіў на механічнае аддзяленне Пецярбургскага Тэхнічнага інстытута.

У інстытуце Грынявіцкі прымаў актыўны ўдзел у рабоце рускіх і польскіх студэнцкіх рэвалюцыйных гурткоў. У 1879 г. ён уступіў у члены «Рабочай групы» партыі «Народная воля», узначальваемай А. Жэлябавым і С. Пероўскай. У 1880 годзе Грынявіцкі быў выключаны з Інстытута. Ён вядзе прапагандысцкую работу сярод фабрычназаводскіх рабочых, становіцца адным з галоўных арганізатараў «Рабочай газеты» і падпольнай друкарні, дзе нелегальна друкавалася газета і дзе ён сам працаваў наборшчыкам.

Калі кіраўніцтвам «Народнай волі» было прынята рашэнне аб забойстве Аляксандра II, Грынявіцкі выказаў жаданне прыняць непасрэдны ўдзел у ажыццяўленні гэтай пастановы. Разам з другімі ён актыўна рыхтаваўся да задання, вывучаў маршрут цара, сачыў за яго выездам. С. Пероўская, ведаючы смеласць, рашучасць, цвёрдасць, вытрымку І. Я. Грынявіцкага, прызначыла яго на самы адказны ўчастак — у групу кідальшчыкаў.

Забойства І. Я. Грынявіцкім цара не апраўдала надзей народавольцаў. Тэрор не выклікаў масавага руху. Забойствам цара нельга было звергнуць самадзяржаўе, нельга было знішчыць клас памешчыкаў. Народавольцы не разумелі, што гісторыю робяць не выдатныя адзіночкі, «героі», а народ, што не героі ствараюць народ, а народ стварае герояў і рухае наперад гісторыю.

І. ЦІШЧАНКА

## З творчасці эміграцыйных паэтаў

* * *

Навошта я пішу, хто мае ў тым патрэбу?
Марную час, сціскае кроў чарнілам.
Рука галоднага працягваецца к хлебу,
Рука багатага ў кашальку застыла.

Каго-ж тады мае радкі цікавяць?
Каму? Навошта? Эх, пустыя словы..
Глянь ад мяне, як ад чумы, ўцякаюць
Карыснага жыцця галовы.

Ім хлеб давай, а не ўзлёты дум.
Не накарміць галоднага радкамі...
Бывайце, я ад вас іду,
Кідайце на мяне апошні камень.

Такіх я спатыкаў не раз.
Ад вострых слоў я на зямлю не падаў.
Паэты пішуць не для вас —
Двуногіх і халодных гадаў.

* * *

Хочаш плач ці давіся ад смеху —
Не ўцячэш ад праклятай бяды.
На апошні паўстанак заехаў,
Болей ехаць няма куды.

Ад утомы і коні сталі.
Хмары, цемень, няма дарог.
Глянуў я ў туманныя далі —
Камень цяжкі на сэрца лёг.

Не стрымаць ні сарказму, ні смеху,
Многа поўзаў сюды і туды.
На апошні паўстанак прыехаў,
Болей ехаць няма куды.

* * *

Што на свеце людскія ахвяры...
Да ўсяго на зямлі я прывык.
Голас мой у духовай Сахары —
Прадсмяротны апошні крык.

Мне ўсёроўна, куды не ідзем мы,
Над усім стаўлю кропку адну.
Чую мне пахавальнік знаемы
Забівае цвікі ў труну.

Што з таго, што калісьці я марыў,
Безнадзейна мой промень знік.
Голас мой у духовай Сахары —
Прадсмяротны апошні крык.

УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ
ЗША

Карысныя парады

## Як пазбавіцца мазалёў

Мазалі не толькі прыносяць шмат непрыемных адчуванняў, але і парушаюць прыгожы выгляд нагі. Пры лячэнні мазаля ў першую чаргу трэба пазбыцца націраючага або цеснага абутку, які з'яўляецца прычынай непрыемнага і хваравага стану. Найбольш прosты сродак барацьбы з мазалямі—гэта паслойнае зрэзванне мазаля лязом бяспечнай брытвы пасля гарачай мыльнай ванны. Каб не дапусціць інфекцыі, аперацыйнае поле праціраецца алкаголем або эфірам, брытва апускаецца на некалькі хвілін у спірт або адэкалон, а рукі апаратар старанна мые мылам. Калі атрымаўся маленькі парэз скуры і паказалася кропелька крыві, ранку трэба змазаць ёдам і накласці стэрыльную павязку.

З найбольш мэтазгодных прапісаў процімазольных сродкаў можна рэкамендаваць наступныя: саліцылавай кіслаты — 2 грамы, малочнай кіслаты — 2 грамы эфіру — 2 грамы, калодыя — 10 грамаў. Гэтай вадкасцю змазваюць мазоль на працягу сямі дзён, на восьмы дзень робіцца цёплая нажная ванна, і мазоль здымаецца пазногцем.

Калі мазоль не паддаецца гэтаму способу лячэння, то робяць так: мазоль раней размякчаюць у гарачай мыльнай ванне і старанна прасушваюць. Затым робяць маленькае кольца са скручанай ваткі па велічыні мазаля і, адзеўшы на мазоль, прыклейваюць той-жа вадкасцю да пальца. Затым ва ўнутр кольца налiваюць некалькі кропель мазольнай вадкасці, якая тут-жа і застывае. Праз 2—3 сутак кольца здымаецца з пальца пазногцем у цёплай мыльнай вадзе разам з мазалём. Пры патрэбе працэдура паўтараецца.

Процімазольная вадкасць можа быць заменена мазольным пластырам: мыльнага або ліпкага пластыра — 5 грамаў, саліцылавай кіслаты — 1 грам. Сумесь падаграваюць злёгку на агні, намазваюць на шматок матэрыі і прыкладваюць да мазаля пасля папярэдняга яго размягчэння ў мыльнай ванне. Працэдура паўтараецца да таго часу, пакуль размякчаныя рагавыя масы мазаля поўнасцю не сыйдуць з пальца.

## Некалькі парад бацькам

Ніколі не спрачайцеся ў прысутнасці дзяцей па пытаннях іх выхавання. Разнагалоссі і спрэчкі бацькоў робяць шкодны ўплыў на дзяцей, з'яўляюцца адной з крыніц іх непаслухмянасці.

*

Прывучайце дзяцей штодня класціся спаць вечарам і ўставаць раніцай у адзін і той-жа час; вячэраць — не пазней, як за дзве гадзіны да сну. Перад сном неабходна праветрыць пакой.

*

Бацькі, прыносячы сабе асалоду курэннем, атручваюць тытунёвым дымам дзяцей. Таму не курыце ў пакоі, дзе спяць дзеці.

## Апавяданне лясніка

Да ад'езду аўтобуса было яшчэ некалькі гадзін. Ажно тут я даведаўся, што ляснік Сухоцкі ў Аўгустоўскай пушчы забіў ваўка. Не вытрымаў, каб не паглядзець на гэтага драпежніка зблізу. Я пайшоў да Сухоцкага.

Доўгае, — бо блізка поўтара метра, воўчае з вышчаранымі клыкамі цела ляжала непарушна перад хатай на панадворку. Не падобны быў на нежывога.

Чорныя плямкі на ілбе, набеглыя крывёю дзікія і страшэнныя вочы надавалі яму драпежніцкі выгляд. Не адважышся крануць яго раззяўленую пашчу, хаця быў перакананы аб яго смерці.

Лясніка Сухоцкага я не застаў, быў яшчэ ў лесе, таму я не мог даведацца падрабязнасцей гэтага палявання, але яго сябра — Алесь Попка папрасіў мяне пагутарыць. Мае ён трыццаць пяць гадоў лясной службы за сабой — нічога дзіўнага што ёсць пра што расказваць.

Пачаткова расказаў пра ахову звяроў.

— Гэта не шкодзіць, калі крыху працярэбіцца ваўкоў. Яны-ж вялікія шкоднікі, асабліва падчас выпадкі звяр'я і гнездавання курапатваў.

Далей пайшла гутарка пра ахову зайцаў узімку, курапатваў, сарнаў, а нават дзікіх свіней, якія пасуцца на сваіх пашавых папасах. Потым ізноў пачаў расказваць пра ваўкоў.

— Аднойчы выпала прыгожая пароша. Вышшаў я з хаты з усходам сонца. Мароз аж трашчыць. Так ціха і ўрачыста зімой у лесе. Аб'інеўшыя дрэвы стаяць непарушна, блішчаць у праменнях узыходзячага сонца. Толькі час-ад-часу вавёрка скачучы з галіны на галіну распыльвае ў марозным паветры сярэбраныя снегавыя пласты, якія паволі сыплюцца на каўнер.

Раптам бачу, ого — дзевяць воўчых слядоў, кожны як далоня. Ну — думаю — тут мы зробім паляванне — штораз больш ажыўляючыся кажа ляснік:

— Змяніў я ў дубальтоўцы шрот на кулі і давай акружаць сляды робячы штораз меншыя колы, так каб быць найбліжэй меркаванага воўчага берлагу, потым у міг скочыў да суседзяў, паклікаў яшчэ «чатыры стрэльбы», сабраў аблаўшчыкаў і давай закладаць «флядры».

— А што гэта флядры? — пытаю.

— Флядры, — ведаеце, — гэта шнуры з рознакаляровымі флажкамі, завешанымі на поўметравай вышыні над зямлёй, якімі абводзяць цэлую «атропленую» прастору, на якой прадбачваецца прысутнасць ваўкоў, а якая часам дасягае і двух кіламетраў.

Пазаймалі мы становішчы, — працягвае далей ляснік, — бо ўжо здалёк было чуваць голас нагонкі...

Паляванне ў лесе мае ў сабе вельмі многа эмоцыі, вымагае шпаркасці вока, зручнасці і назіральнасці...

Стаю я так з дубальтоўкай гатовай да выстралу, аж бачу закурыўся снег. Хуценька падношу дубальтоўку да выстралу і... нажаль мільганула прад вачыма, відавочна збluканая нагонкай... сарна. Зараз потым штосьці заенчыла і захрабатала ў кустах. Ломат - мітусня...

Тымчасам нагонка прыбліжалася. Бачу воўк прашмыгваецца паміж кустамі. Выстрал. Воўк прысеў на задзе і перабірае пярэднімі лапамі якбы абганяючы мухі.

— Не папаў — думаю. — Тады я ўміг, другі раз — і... воўк пачаў выграць нагамі, рваць снег, кавыркацца...

З абодвух бакоў ляцелі стрэлы. Мелі таго дня што рабіць ляснікі.

*

Вакол распаленага вогнішча, пры якім смажылася мяса, сабраліся паляўнічыя, ляжала застрэленае звяр'ё: зайцы, тры лісы і дзевяць ваўкоў. Ні адзін не ўцёк. Дзевяць тонаў звярыны было выратавана, бо трэба ведаць, што кожны такі звер можа з'есці каля тоны мяса ў год.

Цешыліся мы тады ўсе. Весела трашчаў агонь. Паляўнічыя хутка набіралі гумару, бо кварта з цёмназялёнай духмянай «зуброўкай» пераходзіла з рук у рукі.

— А сарна, — пытаю — што сталася з сарнай?

— Пачатую ваўкамі сарну «аплятаалі» усе з воўчым апетытам, — закончыў апавяданне ляснік.

*

Вяртаючыся дахаты, я прыблізна аблічыў, што калі ў Польшчы знаходзіцца каля 1000 ваўкоў (гэты лік вельмі змяняецца, многа іх прыходзіць з Літвы), — то яны змогуць з'есці каля 1000 тон мяса ў год. Гэта вялікая страта.

Ня ўсе ведаюць што адна саміца вывядзе ад 5-ці да 6-ці ваўчанят у год. Ды якую-ж велізарную шкоду могуць прынесці яны на працягу некалькі гадоў.

Таму знішчайце ваўкоў. За аднаго забітага ваўка плаціцца ад 500 да 1.000 злоты ўзнагароды.

І. Р.




## Мары журналістаў „Нівы''

# Спадзяемся, што ў гэтым годзе ...



...атрымаем дайноабяцаны транспарт.



...Галоўны рэдактар не будзе гуляць з... алавіком,

...атрымаем візы ў розныя краіны свету.



...у гэтакіх умовах не будзем працаваць...

...не будзем біцца з сакратаром за свае артыкулы.

...будзем меці фатаграфічныя прылады.



...ані адпачываць!

Праекты і тэкст — І. ВЕРАС.
Малюнкі — К. ОНДРУХ

### ЯК РОБІЦЦА ПАДПІСКА

Спачатку шукаем пісьманосца. Калі яго ўжо маем, просім, каб узяў падпіску на «Ніву».

Часта здараецца, што пісьманосец не хоча прыняць падпіскі. Тады бярэм пару яек і ціхенька кладзем іх пісьманосцу ў кішэню...

Цяпер думаем, што ён не адкажа...

— Зараз, зараз, — скажаце, — а што-ж зрабіць, калі няма яек?

— Тады, пайсці на пошту і падпісаць «Ніву» на ўвесь год. Пазбудзецеся непатрэбнага клопату...

## Ты, каліна, ты маліна

Запісаў Г. Т. Цітовіч




Ты, каліна, ты, маліна, (2)
Над вадою схілілася.

Над вадою схілілася, (2)
А я млода журылася.

А я млода журылася, (2)
Што й ад роду адбілася.

Што й ад роду, ад радзімы, (2)
Цяжка жыці, на чужбіне.

Цяжка жыці, цяжка быці, (2)
З чужым родам гаварыці.

Распушчу я сваю долю (2)
Тай па сіняму мору.

Плыві, доля, із вадою, (2)
А я следам за табою.

## АДГАДАНКА

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | А | | З | | Я |
| | З | | Д | | Р |
| | А | | І | | Ь |
| | Н | | Р | | Й |

Толькі цяпер мы агледзіліся, што падчас друкавання недзе пагубіліся літары з гэтых чатырох радкоў. Мы не ведаем, якія гэта літары, бо аўтар гэтай адгаданкі паехаў на водпуск. Але думаем, што нашыя чытачы памогуць іх адгадаць.

Зробяць яны тым ахватней, калі скажам, што гэта будуць 4 беларускія імёны, а першыя іх літары чытаныя зверху ўніз дадуць развязку адгаданкі.

Сярод тых, якія ў тэрміне да 15 сакавіка прышлюць правільныя развязкі разлясуем 10 Беларускіх каляндароў.

### Развязка адгаданкі з 4 нумара „Нівы"

У сярэдні кружок упісваем лік «10, а потым па чарзе ў кружках звонкавага боку ўпісваем лікі: 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 19, 18, 17, 16, 15, 14, 13, 12, і 11.

Агулам прыслана 84 адказы. Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Надзя Себясюк — Беласток, Галена Валкавыцкая — Нараўка, Мікола Несцяровіч — Орля, Алёша Прахарук — П...кі, Анатоль Данілецкі — Падлеўкова. Станіслаў Петкевіч — ...энтшын, Сяпра Яконюк — Барысоўка, Валя Патэюк — Гайнаўка, Янка Вянцлеўскі — Сстрые, Зіна Кастанчук — Барова.

Узнагароды высылаем поштай.

### Прыказкі і прымаўкі

**Дарастае дзяўчына — шыкуй матка пярыну.**

**Ката ў мяшку не купляюць.**

**На сва'м сметніку і певень смелы.**

**Сяк-так, на касяк, абы не па-людску.**

**Не войтава дачка, а да рэчы гаворыць.**

## АГАФОН АБРОТКА ПРЫПАМІНАЕ




Агафон лісток зрывае
І глядзіць — прыпамінае..
— У гэты дзень, ў мінулым годзе,
Памятаеш, мой Народзе?



Вышла ў свет родная «Ніва»...
Агафончык глядзіць скрыва:
— Пісьманосцы грошы бралі,
А газеткі прападалі.




Хадзіў мужык нешчаслівы,
У кіёсках бракла «Нівы».
Шукай, лётай верталётам,
І што ж гэта за работа?!




Плылі скаргі і лямэнты,
Быў чыта карэспандэнтам...
Агафончык: — Верце людзі,
Болей гетага не будзе!!!

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Адрас рэдакцыі гор. Беласток, вул. Маніфесту Ліпцовага 25, тэл. 25-89. Умовы падпіскі на 3 месяцы — 7 зл. 80 гр., 6 месяцаў — 15 зл. 60 гр., на год — 31 зл. 20 гр. Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы, Выдавецтва РСВ «Праса». Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку. Т-13